3

# Магутны Божа

Тэкст : "Божым Шляхам" – Парыж 1947
Словы – Н. Арсеньневай

Музыка: М. Равенскі









Магутны Божа! Уладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай, шэрай,
Не лусту хлеба, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць – дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўзлёт!
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

# Божа, што калісь

Тэкст: "Голас Душы" – Вільня 1926
Словы: а. А. Астрамовіча.

Мэлёдыя: а. Архім. Ф. Абрантовіч
гарм. К. Галкоўскі.



Божа, што калісь народы
На асобкі падзяліў –
І хацеў, каб народ кожны
Мовай роднай гаварыў,
Узглянь-ж на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
Голас ціхі, паднявольны
У пакорнай шле мальбе.

Асьвяці-ж наш розум верай,
Льгі надзей ў душу ўлі,
І агонь любові ачырай
У сэрцах зімных запалі !
Дай каб вернятка прабуды
Зелянела ў кожны кут
Беларусі, каб усюды
Ужыло і там і тут.

Каб рунела, каласавела,
Красавела, расьліла
І, насьпеўшы, у ток немала
Умалоту прынясло.
Памажы-ж нам, Божа міл,
Прабудзіцца ды жыцьця
Удалі пароды, сілы,
Каб ня зьбілася куцьца.

Дык жыві-ж Ты і красуйся,
Наша Матка, Беларусь,
Да краёў чужых раўнуйся,
Ісьці далей к табе прамусь.
Хай бяруцца да работы,
Хом народы суседзець,
І багацяцці ў цноты,
Каб пасьля ім рай дастаць.

5

# На крыж прыбіты

Тэкст : "Голас Душы" Вільня 1926

Музыка традыцыйная
апрац. А. Клімовіч



На крыж прыбіты Бог-Сын цьвікамі!
Плач, чалавеча, за грэх сьлязамі.
Ах! ах! на крыжы ўмірае
Ісус вочы зачыняе.

Зранена страшна Божае цела,
Зьлітае кроўю ў ранах віседа.
Ах, ах! то грэх наш праклятны
Мучыць Бога так заўзята.

Кола кароне голаў баліюча,
Вусны спаліла смага пякуча.
Ах, ах! за маё грашэньне
Ісус мае ад цярпеньня.

Пад крыжам Маці плача, канае,
Матчына сэрца жаль разрывае.
Ах, ах! злосьць мая ліхая
Страшна Богу ад плачае.

Буду ўжо лепшым! Дай помач, Божа,
Грэх, вораг люты болей ня зможа.
Ах, ах! годзе ўжо грашыці,
З ласкай Божай хачу жыці.

І з Магдаленай пакутаваці,
За ўсё грашэньне адшкадаваці.
Ах, ах! зжалься нада мною,
Божа, дай мне жыць з Табою.

З грэхам сягоньня пачну змагацца,
І з жалем буду я спавядацца.
Ах, ах, прабач мне, мой Божа!
Болей грэх мяне ня зможа.

# Хрысьце, відзіш

Тэкст: "Голас душы" - Вільня 1926

Мялёдыя традыцыйная
апрац. А. Клімовіч



Хрысьце, відзіш маё сэрца,
Маей тайніцу душы:
Табе жалюсь ў паняверца,
Мае сьлёзы асушы.
Вырекаюся я грэху,
Шчыра плачу за блуды,
Прышлі-ж ўрэшці мне ўцеху,
За малохі, за труды.

Хоць гора мне з патрэбы,
Не забыў каб цноты я:
Бо у шчасьці не здалеў-бы
Паважаць красу жыцьця.
Алеж крыж уеўся ў плечы,
Ванцухі у рук, у ног:
Ворагі паднялі мечы,
Каб паўстаці я ня мог.

О, Ісусе, шасьця мукі,
Маў-жа Ты трыумфу час:
Разамкні-ж і нам ўжо рукі,
Бо грахі згубілі нас.
У дарозе да свабоды,
Дай-жа нам сьвяты Дар Твой:
Багаслаў усе народы,
На збаўленьне, на спакой.

# Прад Табою, мой Бог

Тэкст : Народны

Мэлёдыя з бел. Багагласніка
апрац. Г. Піхура



Прад Табою мой Бог
Запаліўшы сьвечку,
За збаўленьне грахоў
Я маліцца хачу.

Бо Твой воблік, Хрысьце,
На іконе сьвятой -
Прабачаньне дае,
І душы супакой.

Ты на крыжы цярпеў,
Праліў кроў за людзей;
Нас з Айцом прымірыў
Страшнай сьмерцю Сваей.

Прад Табою, мой Бог,
Я пакорна стаю,
І зрабіўшы паклон,
Прабачэньня прашу.

Да канца маіх дзён
Буду бліжніх любіць,
І Табе ўсёй душой,
Божа,шчыра служыць !

# Ты сьветач мой

Тэкст: "Божая Ліра" - Вільня 1930

Словы-Дж. Кардынал Н'юман

Музыка: Ч. Пурдэй





Ты сьветач мой, праменьні зіхацяць,-
Вядзі мяне!
Тут цёмна ноч і пяруны грымяць,
Вядзі мяне!
Кіруй ступой і вочы працірей,
Каб ня згубіў мяне ліхі адчай!

Быў незаўсёды Твой я, не хацеў
Каб вёў мяне!
Але цяпер, як страшна ноч ідзе,
Вядзі мяне!
Хаця ня раз поў сам праз грех і блуд,
А выбач Ты, ня каюся я тут.

Пакуль сваім цудоўным бліскам Ты
Вядзем мяне,
Праз грозы бур, праз страх і ноч, ізгды -
Пайду сабе,-
Мяне, васёлкай прывітае сьвіт,
Калі ўвайду я ва нябесны шчыт.

# Цудоўна ласка

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнзвіль Па.
(ЗША) 1979

Мелёдыя амерыканская



Цудоўна ласка, дар дароў,
Цябе паслаў нам Бог !
Каб грэшніка вяла дамоў,
Дала сляпому зрок.

Зусім змяніла думкаў бег
І мроі ўсе мае:
Я сумаваў, тварыў я грэх,
Цяпер душа пяе.

Праз небяспекі, гора й страх
Праходзіў я ў жыцці;
Мне ласка асвятляла шлях,
Давала сіл ісці.

Іду адважна за Хрыстом,
Спакойны, пеўны я,
Што ласка будзе мне шчытом
Аж да канца жыцця.

Калі ж замоўкне сэрца стук,
Прыйдзе смяротны сон, –
У край, дзе больш няма разлук,
Мяне пакліча Ён.

У вечнасці сто тысяч лет
Мінуцца як бы цень,
А Бога славіць будзем так,
Як у найпершы дзень.

# Ісус ёсьць тут

Тэкст і музыка: "Лівінг Саўнд" - Лёндан 1981
тлум. А. Рахмец.



Ісус ёсьць тут,
Ісус ёсьць тут,
Паднёсшы рукі, клічам Яго імя,-
Ісус ёсьць тут.

З намі наш Бог,
З намі наш Бог,
Паднёсшы рукі, клічам Яго імя,-
З намі наш Бог.

Ён любіць нас,
Ён любіць нас,
Паднёсшы рукі, клічам Яго імя,-
Ён любіць нас.

# Жыровіцкая Бога Маці

Тэкст: "Праваслаўная Думка" - Менск 1989

Мялёдыя з нот а. Міхася Сеўбы
гарм. Г. Піхура



І. У Жыравіцах нам зьявілась,
   О, Марые,
Бо нас грэшных палюбіла,
   Алілуя!
(Прыпеў)
   Радасць вам, херувімы,
   Сьпявайце серафімы,
   Радуйся, радуйся,
   О, Марые.

2. Туды дзеці скот ганялі,
Дзе цяпер сьвятыню славім.

3. На грушковым стаяў дрэве,
Абраз Прэсьвятая Дзевы.

4. І Апорай Хрысьціянаў,
Стаў Абраз Твой Богам даны.

5. Няхай будзе Табе слава,
Што да нас ты завітала.

6. У Жыравіцы людзі ходзяць,
Там свае малітвы ўзносяць.

7. Мы Цябе ўсе ўзьвялічваем,
Свае слёзы пралiваем.

8. Ты нябесная нам Маці,
Да цябе мы будзем звацi.

9. Няхай будзе Табе слава,
Што для нас Апорай стала.

10. Нашых ворагаў прагнала,
Беззаконых пакарала.

11. Каб жыла наша Краіна,
Адганяй ворагі злыя.

15



# Смаленская Бога Маці

Тэкст : "Сборник стихов" П. Бяссонава – Масква 1861. (Народны варыянт)

Мелодыя з бел. Багагласніка апрац. Г. Піхура



Дзіўная Памочніца, Усясьвятая Маці,
Тваіх верных заўсёды любіш спамагаці.
У слаўным месьце Смаленску цуда Ты зьяўляеш, )
У Беларускай краіне Ты як сонца зьяеш. ) (2x)

Працвіла ў нашым краю вышняя прыгожа;
Усіх журботных пацяшаеш, добра Маці Божа.
Каралева чыстая, царская палата, )
Ты нам даражэйшая ад ўсякае злата. ) (2x)

Дзеці Цябе, Уладарка, краскамі ўбіраюць;
Хрысьціянскія людзей Цябе выхваляюць.
З ўсходу аж да заходу імя Твае слаўна, )
З поўдню аж да поўночы – усім верным яўна. ) (2x)

Бедныя мы грэшнікі імя Твае знаем;
Нягоднымі галасамі Цябе ўсхваляем.
Малі Сына Твайго каб нам дасьць збаўленьне; )
Вядзі нас у сьветлы рай, Божае селеньне. ) (2x)

# Ўладарка ласкі

Тэкст : "Божым Шляхам" - Рым 1949

Музыка традыцыйная
з нот а. П. Татарыновіча







Уладарка ласкі, болем пранята,
Заступніца без граху пачата,
За нас маліся да свайго Сына,
Каб дараваў нам нашы правіны!

З кожнай, О Матка, к Табе старонкі
Дзетанькі жаль нясуць скаргі горкі –
Ня ўзгардзь мальбою шчырай пакутнай,
Адхілі кары прозьбай магутнай!

К каму-ж бо, Маці, к каму мы пойдзем,
Помач опеганду у каго знойдзем –
Разьвяжы путы граху няволі,
Прысьпяшы канец нашай нядолі.

Лекарка хворых, Маці любові,
Похацяў грэшных аслаб аковы,
Так бо нам цяжка з імі змагацца,
Цяжка самым цнатлівымі стацца.

Старожка веры, Мацарка Божа,
Із Беларусі выгань бязбожжа,
Богу гасанна хай стройна громка,
Сьпявае вольна, родна старонка!

Калі-ж апошняя прыйдзе часіна,
Апошня з вока сплыве сьлязіна,
Сваімі матчынымі рукамі
Закрый нам вочы навекі. Амін.

# Вітай Марыя

## № 3.

Тэкст: "Бог з намі"- Вільня 1915

Мялёдыя трэдыцыйная
з нот А. Клімовіча





Вітай Марыя, Хрыстова Маці,
Пазволь нам грэшным Табе часьць даці,
Прымі і нашы просьбы нізкія,
За нас маліся – Вітай Марыя!

Ты, што карміла сьвету Збаўленьне,
І нам, як Маці, дай пажыўленьне;
Ад гогаду нас няхай укрые
Твая апека – Вітай Марыя!

Цяжкі жаль мела над сьмерцяй Сына:
Праз Тваё сьлёзы, Маці адзіна,
Хай нам хвіліны сьмерці цяжкія
Спакойны будуць – Вітай Марыя!

Поўная пакоры, згодная, ціхая,
Дай людзям згоду ў нашым краі;
Між нас хай згінуць сваркі ліхія,
Крый нас ад войнаў – Вітай Марыя!

Уладарка наша, між херубімаў,
Пачуй маленьне, неба Княгіня,
Што йдзе прад ногі Тваё сьвятыя,
За нас маліся – Вітай Марыя!

# О Марыя, Маці Бога

## № 2.

Тэкст : "Касьцёльныя песьні" - СПбг. 1917

Мелёдыя традыцыйная
з нот А. Клімовіча



О Марыя, Маці Бога,
Ты не гардзіш анікога;
Хто ў нядолі, ці ў патрэбе
Зьвернецца прад трон Твой у небе,
  О Марыя, маці Сына,
  Ты надзея наша адзіна.

Дык і я, грэшнік нягодны
Як сын да матулі роднай,
Да Цябе, Маці ласкава,
Шлю пакорнай просьбы слова;
  О Марыя...

Сьцеражы ад злых прыгодаў,
Ад душы і цела шкодаў,
Голад, мор, вайну, пажары,
Адвярні ўсе Божы кары;
  О Марыя...

А па сьмерці няхай Бога,
У Сьвятой Тройцы адзінога,
І Цябе, Нябесная Пані,
Славім у небе з Анеламі.
  О Марыя...

# Сьвету Заступніца

Тэкст : "Голас Душы" - Вільня 1926
(Варыянт)

Музыка з бел. Багагласніка



Сьвету Заступніца, славай апетая,
Слухай, мы клічам Цябе,
Песьняй пакорнай, мольбы складаючы,)
Чэсьць аддаём мы Табе. ) 2 х

Нас, сваіх дзетачак, што ў Цябе просяцца,
Матачка. Ты пашкадуй;
Ласкай ахьўчаю Бога Прадвечнага, )
Мілая нас абдаруй. ) 2 х

Вылеч Ты сэрца нам раны глыбокія,
Міласьцяй нас запалі,
Каб хвала Божая, не жальба вечная, )
Ў небе ляцела з зямлі. ) 2 х

Сьветам нябесным галовы нам цёмныя,
Добрая, Ты асвяці,
Каб мы пазналі ўсю Мудрасьць Адвечную, )
Богу служылі ў жыцці. ) 2 х

Дай-жа нам, дзетачкам, дарогу простую,
Сьмерць нам шчасьлівую дай:
Ты прывядзі нас да вечнага шчасьцейка,- ) 2 х
Ты накіруй нас у рай. )

# Ад зарніца

Тэкст : "Голас Душы" – Рым 1949

Музыка традыцыйная
з нот а. П. Татарыновіча



Ад зарніцы хай з зямліцы
Ляціць слава Марыі,
Кожна сьвята, чэсьць багата
Аж пад неба хай ўстае
  Табе гожа, Маці Божа,
  Хвалу душы хай плыць,
  Боку высоку, поўна бляску,
  Памажы нам асягнуць.

Між жанчынаў Ты адзіна
Ласкі поўна у Бога,
Кветка майска, зорка райска
Асьвячай нам дарогу !
  Табе гожа...

Чыста Дзева, Каралева,
Красой неба ачаруй
Нашы дзеткі – зямлі кветкі –
Цнатлівасьцю абдаруй !
  Табе гожа...

# Лясьнянская Маці Бога

Тэкст (стара-бел.): "Божым Шляхам" -
Парыж 1957

Мялёдыя з бел. Багагласнікв



Сьпявайце людзі, хто жыве на сьвеце,
Дзева Марыя ёсьць ў Бельскім павеце.
У Лясьнянску абіцель там она аб'явілась,
Каб усе хрысьціяне да ее маліліcь.
Хто веру мае ў Бога і застаўсь хрысьціяны,
Няхай пасьпяшае да тае іконы.
Нех моліцца шчыра дзяцінна, пакорна;
Парадзіць, прыгорне яго Чудатворна.
Маці Усеблагая памілуе грэшных,
Заступніца перад Сынам, Госпадам Усявышнім.
І Гасподзь уважыць і падасьць надзею,
Хто сэрца прыхлоніць прад стопы Марыі.
І як-жа шчасьліва тэ старонка Лесьна;
Там ўдрэўле явілась ікона нябесна !
Сваім ліцом ясным храм увесь асьвяціла,
Няраз помач людзям сьмірэнна явіла.
Прыйдзеце хрысьціяны ў Лясьнянскі храм Божы,
Царыца нябесна ўсім вам дапаможа.
Прыйдзеце ўдавіцы, прыйдзеце хромыя,
Прыйдзеце калекі і дзеці малыя !
Усіх заспакоіць Маці Усеблагая,
Усё падасьць людзям ікона сьвятая.
Дзева Марыя, міласэрна Маці !
Дай лёгку гадзіну, як будзем уміраці.
Перад Сынам у небе за нас заступіся,
А пакуль жывем, за нас маліся.
К Табе прыпадаем, смірэнна ўзываем,
Ад бяды ізбаў нас, - на Тя упаваем.

# Заступніца духоўная

Тэкст: Народны

Музыка з бел. Багагласніка




Заступніца духоўная,
Марыя, ласкі поўная –
О, Маці Бога Вышняга,
Хрыста-Царя Усявышняга,-

Ты моліш Сына мілага,
Уладара-Збаўца нашага,
Да ласкі прызываючых,
Пакроў Твой прыбягаючых.

Рупліва моліш Ты Збаўца,
Сьвятога Бога і Айца,
Каб за Тваё маленьне
Усім даравалў збаўленьне.

Уладарка Ты нябесная,
Нявестка неня весная,
Дай нам у бядах цярпеньне,
У шчасьці бласлаўленьне

Прад вобразам сьвятым Тваім
Мы ўсе з малітваю стаім,
І з сэрцамі сакрушнымі,
І верай паслушнымі.

Ты нас асьветай асьвяці,
Да розуму нас прывядзі;
Увесь народ багаславі,
Пачуцьцем Божае любві.

20

# Ўсясьвяцейшая

Мялёдыя з бел. Багагласніка
апрац. Г. Піхура

Тэкст: Народны



Усясьвяцейшая,
Міласьцівая,
Дзева верная –
Літасьцівая!

Ты Прачыстая,
Ты Цудоўная,-
Я Цябе пяю –
Ласкі поўная.

Помач хуткая
Бязнадзейнаму,-
Радасьць сьветлая
Шматпакутнаму,

О, пачуй мяне
На маленьне;
Паспяшай ка мяне
На збаўленьне.

Заступы мяне
Маладушнага;
Ня пакінь мяне
Усім абрыдлага.

Я Цябе прашу,
Найсьвяцейшую,
Ты цяпер прымі
Малітву маю.

# На Раство Хрыстова

Тэкст : Народны

мялёдыя з бел. Багагласніка



На Раство Хрыстова анёл паляцеў;
Ён зляцеў з небе – людзям песьню пеў:
Хутка паспяшайце,
Дзіцятка вітайце
Нованараджаннага !

# Анёл сказаў пастушкам

Музыка традыцыйная
гарм. А. Клімовіч

Тэкст : "Голас душы" - Рым 1949.



Анёл сказаў пастушкам:
"Нарадзіўся Хрыстос вам!"
"А дзе, дзе?" – "У Бэтлеем Давідовым,
У пакаленьне Юдовым
Ад Дзевы Марыі".

Гэта хочучы спазнаць,
Вестку шчасну аглядац,
Пабеглі да Бэтлеем з ахвотай,
Найшлі ў ясьлях Дзіцятка,
Марыю з Язэпам.

Нарадзіны – дзіў з дзівоў!
Выслаўляці мала слоў:
Дзева Божага Сына насіла
Зрадзіла, не чапіла
Свайго Дзявоцтва.

Хвалы вечнай Бог сступіў,
Як просты сябе зьніжыў,
Палацаў багатых, мураваных
Ня меў пабудаваных
Бог ўсяго стварэньня.

# Учора з вячора

Тэкст : "Калядоўшчыкі" - Клiўлянд 1961

Мялёдыя традыцыйная
гарм. М. Кулiковiч-Шчаглоў

Мерна

У- чо-ра зь вя-чо- ра зась-вя- цi-ла зо- ра.

Учо-ра зьвячо-ра за- сьвя-цiла

У- чо-ра зьвячо-ра зась-вя-цi-ла зо-ра, зась-вя- цi-ла зо- ра.

У- чо-ра зьвячо ра зась-вя-цi-ла зо-ра, зась-вя- цi-ла зо- ра.

Учора зьвячора (2 разы кожны радок)
Засьвяцiла зора.

Зара засьвяцiла-
Сьвет узьвеселiла.

Сьвет узьвесялiўся,
Хрыстос нарадзiўся.

Хрыстова раджэньне-
Людзям на збаўленьне.

Людзi прыбягайце-
Хрыста прывiтайце.

Здаровы бывайце,
Нам Каляду дайце.

Здаровы сьвяткуйце,
Дайце не шкадуйце.

# Дзіўная навіна

Музыка традыцыйная
З Віленскага Богагласніка (1912)

Тэкст: Народны



Дзіўная навіна: ойция Дзева Сына
Парадзіла ў Бэтлееме Марыя адзіна.

Не ў царскай палацы, не ў багатай хаце
Но ў вярцепе пасяліўся а ўсе будуць знаці

З Назарэту месьце – Марыя Усячыста
І радзіла і павіла Яго як нявеста.

На руках трымае і Яму съпявае,
Усямагутным Стварыцелям Яго называе.

# Нараджэньне Тваё

Грэцкі напеў (Вілен. Сьв. Дух. Багагласьнік 1912)

Тэкст : Трапар, тон 4. гарм. М. Куліковіч-Шчаглоў (1897-1969)



На-раджэньне Тва-ё, Хрысьце Бо- жа наш, за- зьзя-ла на ўвесь сьвет



сьвят-лом пазнаньня. Дзя- ку- ю- чы я- му ты- я, што зор-



кам слу- жы- лі, ад зор- кі на- ву- чы- лі- ся па-кланяц-



ца Та-бе, Сон-цу спра-вяд-лі- вась- ці, і зра-зу- ме- лі, што Ты




Сьві-тань-не з вы- шы- няў: Го- спо-дзе, сла-ва [illegible]- бе

# Дзева сёньня

Тэкст : Кандак, тон 3.

Музыка А. Туранкова (1886-1958)




Дзева сёньня родзіць Надпрырод-на-га і зям- ля пя-чо-ру На-да-




ступ-наму пры-но-сіць; ў песьнях Яго славяць,




му-дра-цы з зор-ка- ю па-да-рож- ні- ча- юць:




дзе-ля нас на-ра- дзі-ла- ся Дзіцятка ма- ло- е спрадвечны Бог.

# Неба і зямля

Малёдыя традыцыйная
гарм. М. Кулікові-Шчаглоў










1. Неба і зямля (2 разы) радасна сьпяваюць.
   Ангелы сьвету (2 разы) дзіва абвячаюць.

   Прыпеў: Хрыстос нарадзіўся,
   Бог абявіўся,
   Ангелы сьпяваюць,
   Пастушкі іграюць,
   Дзіва, дзіва абвячаюць.

2. У Бэтлееме (2 разы) вясёла навіна:
   Чыстая Дзева (2 разы) нарадзіла сына.

   Прыпеў:

3. І мы Дзіцятку (2 разы) Богу паклон дайма,
   Слава на Ўзвышніх (2 разы) Яму засьпявайма.

   Прыпеў:

* Падобна, як званы

# А ўчора з вячора

Тэкст: Народны

Муз. традыцыйная
з нот а. Прат. Яна Абабуркі



А учора з вячора (2x)
з нябеснага двора,

З нябеснага двора (2x)
Прыйшла к нам навіна:

Прыйшла к нам навіна, (2x)
Нарадзіўся нам Сына.

Нарадзіўся нам Сына, (2x)
Ад Дзевы Марыі.

# Новая радасьць стала

Тэкст : Народны

Мялёдыя традыцыйная
з нот а. Архім. Я. Строка




Нова радасьць стала,
Што шчэ ня бывала:
Над Бэтлеей гвязда ясна
Сьвету зазіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
З Дзевы ўцелавіўся –
Як чалавек пялёнкамі
Убога спавіўся.

Пастушкі з ягняткам
Перад тым Дзіцяткам
Упадаюць на калені
Для Яго ўслаўленьня.

І мы тож сьпявайма
Хрыста праслаўляйма;
Нараджонага з Марыі
Пакорна ўпрашайма.

Прасім Цябе, Божа,
Просіма як можам:
Дай нам ў небе жыцьцё шчасна,
На зямлі прыгожа.

# На Раство Хрыстова

Тэкст : Народны

Мялёдыя з бел. Багагласьніка
апрац. Г. Піхура



На Раство Хрыстова анёль паляцеў;
Ён зьляцеў з неба – людзям песьню пеў:
"Хутка паспяшайце,
Дзіцятка вітайце
Новенарадженнага !"

31

# Нова радасьць

Мялёдыя традыцыйная
з нот а. П. Татарыновіча
апрац. Г. Піхура

Тэкст : Народны



Нова радасьць нам настала,
Яка не бывала:
Над вярцепам зорка ясна
Сьвету зазіяла, зазіяла.

Дзе Хрыстос сам нарадзіўся
З Дзевы ўцелавіўся, -
Як чалавек пялёнкамі
Бедна так спавіўся, спавіўся.

Пастушкі з малым ягняткам,
Перад тым Дзіцяткам
Упадаюць на калені,
Для Яго ўслаўленьня, ўслаўленьня.

І мы тож сяньня сьпявайма,
Хрыста праслаўляйма,
Нараджонага з Марыі
Пакорна упрашайма, упрашайма.

Цябе просім, мілы Боже,
Просім мы, як можам:
Дай нам ў небе жыцьцё шчасна
На зямлі прыгожа, прыгожа.

# Сёньня Дар багаты

Музыка традыцыйная
З Віленскага Багагласьніка (1912)

Тэкст : Народны



Сяньня Дар багаты нам ад нябёс зыйдзе,
Ён як кропля каплючая на зямлю сьпадзе. (2х)

Ва улоньне дзяўчыны Слова усяліўся,
З яе-ж нябачны Уладар сьвету з'явіўся.

Бог ад Дзевы плоцію сам Сабе раждае,
Цямра зыйдзе, ясьнасьць сьветла паўсюды ззяе.

Як мо' неба другое вярцеп з'явіўся,
Дзе у яслях на убогіх Бог ускладаўся.

Анёльскія усё хоры там прыцякаюць,
Сярод зорак з весялёсьцю песьні сьпяваюць.

Слава Богу ў вышнях пажадаўшаму,
Дараваць і паслаць супакой сьвету ўсяму.

# Паказалась з неба

Тэкст : "Божым Шляхам" – Рым 1946

Мелёдыя традыцыйная
гарм. М. Куліковіч-Шчаглоў



Паказалась з неба яснасьць нябываля,
Грамада анёлаў песьню засьпявала:
"Слава Богу на вышынях,
Спакой людзям на нізінях.
Gloria, Gloria, Gloria in excelsis Deo !"

Пастушкі на полі са страху памлэлі,
Як на гэны цуды ў поўначы глядзелі;
Тады Анёль ім зявіўся,
Сказаў: "Бог вам нарадзіўся.
Gloria, Gloria, Gloria in excelsis Deo !"

Найсьвяцейша Дзева стала Маткай Бога,
Што адкупіць людзкасьць з мощы духа злога.
У стаенцы парадзіла,
І на сенца палажыла. Gloria

І пабеглі дзеці з вялікай ахвотай,
Гралі і сьпявалі Богу стройнэй нотай:
Свае сэрцы радавалі,
Што Ісуса агледалі. Gloria

# Хрыстос Збавіцель

Тэкст : Народны

Мял. традыцыйная
з нот а. Прэт. Яна Абабуркі



Хрыстос Збавіцель
У поўнач радзіўся,
У вярцепе бедным )
Ён пасяліўся. ) (2х)

Над тым вярцепам
Зорка заззяла:
Хрыстос радзіўся )
усім абвяшчала. ) (2х)

Чыны анёлаў
З нябёс зляцелі,
І слава ў вышніх )
Хрысту запелі. ) (2х)

# А ў сьвеце нам

Тэкст : "Калядоўшчыкі" – Кліўлянд 1961

Мял. традыцыйная
з нот М. Равенскага



А у сьвеце нам навіна была,
– Сьвяты Вечар!
Там Прачыстая Сына радзіла,
– Сьвяты Вечар!

У небе зорачкі засьвяціліся:
Прышлі мудрацы пакланіліся.

Каб забіць Дзіця, Ірад сам пайшоў,
Ды да ясьляў шлях ніяк не знайшоў.

Узрасло Дзіця Госпад Хрыстос Бог –
Праўды сьвет знайсьці Ён нам дапамог!

# У доме Давыдавым

Мелодыя з бел. Багагласніка
з нот М. Равенскага

Тэкст : Народны



У доме Давыдавым
Цуда абывеецца:
Чыстая Дзева Парадзіла Сына.

# Радуймася, хрысьціяне

Тэкст : "Голас душы" - Вільня 1926

Мялёдыя традыцыйная
з нот А. Клімовіча





Радуймася, хрысьціяне,
Бо Хрыстова з гробу ўстаньне
Даравала нам збаўленьне.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Патрыярхі рады сталі,
Што ў атхлыцях прабывалі,
Як Збаўцу свайго даждалі.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

І убачылі ясного,
Ён аднаў моц духа злога,
Ім сказаў ісьці да Бога.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

З гробу камень адваліўся,
Хрыстос з умёршых збудзіўся
І Марыям аб'явіўся.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Апосталы сабраліся,
Што былі ўсе разышліся,
Па Хрысьце ўсе смуцячыся.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Мы ўсе разам засьпявайма,
Ускрашэньне разьмышляйма,
З граху ўстань пастанаўляйма.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Хрысьце, прэз Тваё ўокрасеньне
Дай нам грахоў адпушчэньне,
Вечнае душам збаўленьне.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

# Вялік сьвяты

## № 1.

Мял. з Віленскага Багагласніка (1912)
апрац. Г. Піхура.

Тэкст : "Божым Шляхам" – Рым 1946



Вялік, сьвяты нам дзеньнастаў,
Се славай з гробу зазіяў;
Хрыстос ўваскрос – нам вечны сьвет,
Хрыстос ўваскрос !

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
На трэці дзень із мертвых ўстаў.
Ах радасьці ня трэба сьлёз –
Хрыстос ўваскрос !

Суботня поўнач як зайшла,
Зара нядзелі чуць ўзыйшла,
Як адчыніўся насьцеж гроб –
Хрыстос ўваскрос !

Жанчыны зраньня к гробу йшлі,
І міра цэннае нясьлі,
Ах бачаць гроб – там нехта ёсьць –
Хрыстос ўваскрос !

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх:
То сьветлы анёл быў з нябёс.
Хрыстос ўваскрос !

Жанчынам анёл той сказаў:
"Хрыстос ўваскрос, із мертвых ўстаў,
"Дарма шукаеце тут скрозь –
"Хрыстос ўваскрос !"

"Ідзеце дайце знаць аб том
"Усім Яго вучанікам
"Радасну ангельскую весьць –
Хрыстос ўвасрос !"

У царквах сьпявайце і ў дамах
Жыцьцё нам ёсьць на небясах:
Усе весялецесь людзі скрозь –
Хрыстос ўваскрос !

# Вялік сьвяты

## № 2.

Тэкст : "Божым Шляхам" – Рым 1946 Музыка : Дж. Палестрыны (16 ст.)



Вялік, сьвяты нам дзень настаў,
Са славай з гробу зазіяў;
Хрыстос ўваскрос – нам вечны сьвет,
Алілуя !

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
На трэці дзень із мертвых ўстаў.
Ад радасьці ня трэба сьлёз –
Алілуя !

Суботняя поўнач як зайшла,
Зара нядзелі чуць ўзыйшла,
Як адчыніўся насьцеж гроб –
Алілуя !

Жанчыны зраньня к гробу йшлі,
І міра цэннае нясьлі,
Аж бачаць гроб – там нехта ёсьць –
Алілуя !

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх:
То сьветлы анёл быў з нябёс.
Алілуя !

Жанчынам анёл той сказаў:
"Хрыстос ўваскрос, із мертвых ўстаў,
"Дарма шукаеце тут скрозь –
Алілуя !

"Ідзеце дайце знаць аб том
"Усім Яго вучанікам
"Радасну ангельскую весьць –
Алілуя !.

У царквох сьпявайце і ў дамох
Жыцьцё нам ёсьць на нябесох:
Усе вясялецесь людзі скрозь –
Алілуя !

# Вясёлы дзень

Тэкст : "Голас душы" – Вільня 1926
(Варыянт)

Музыка традыцыйная
з Віленскага Багагласьніка (1912)



Вясёлы дзень для нас настаў –
Сягоньня Хрыстос з гробу ўстаў!
Хрыстос ўвасрос (3х)

Уладар Нябесны к нам прыбыў,
Па сьмерці з намі зноў зажыў!
Аліуя! (3х)

Пякельну нетру зваяваў,
Усеньхіх злыдняў паканаў
Хрыстос уваскрос! (3х)

Да трох дзён у пекле правёў,
Там пацяшаў сьвятых Айцоў.
Аліуя! (3х)

На трэці дзень Сам з гробу ўстаў
Пячацяў на'т не пачапаў –
Хрыстос ўваскрос! (3х)

А як Хрыстос з магілы ўстаў,
Да Маткі анёлаў паслаў.
Аліуя! (3х)

Вітайце Дзеду ад Мяне,
І засьпявайце для Яе:
Хрыстос ўваскрос! (3х)

"Матуля родная Мая,
"Жалоба скончылась Твая –
"Аліуя! (3х)"

"Вітай-жа, Ісусе жывы,
"Сынок мой любы, залаты:
"Хрыстос ўваскрос!"

О Хрысте, што ўстаў у тры дні,
Грахі нам нашы адпусьці –
Аліуя! (3х)

# Хрыстос Уваскрос

## № 1.

Тэкст : Трапар тон 5

Супрасьльскі напеў (1598)
гарм. Г. Піхура



Хрыстос увас- крос з мёрт- вых сьмер- цю сьмерць зва-



я - ваў, і тым, што ў ма - гі- лах жыць- цё да - ра- ваў!

## № 2.

Трапар : Тон 5

Жыровіцкі напеў (1649)
гарм. Г. Піхура



Хры-стос у- васкрос з мёрт-вых, сьмер- цю сьмерць зва- я- ваў,



і тым што ў ма - гі - лах жыць-цё да - ра - ваў!

**№ 3.**

Гародзенскі напеў



Хры-стос у - вас- крос з мёрт - вых сьмер-цю сьмерць зве-



я - ваў, і тым што ў ма - гі - лах жыць- цё да- ре - ваў!

**№ 4.**

Падляскі напеў (19 ст.)



Хры-стос у - вас-крос з мёрт - вых сьмерцю сьмерць зве- я - ваў,



сьмерцю сьмерць зва-я- ваў, і тым што ў ма-гілох жыцьцё дараваў!

**№ 5.**

Абыходны напеў



Хры -стос у - вас- крос з мёртвых сьмер- цю сьмерць зве-я - ваў,



і тым што ў ма - гі - лах жыць- цё де- ра- ваў

# Целам заснуўшы

Тэкст : Экзапастылар

Віленскі напеў (варыянт)
апрац. Г. Піхура



Це - лам за-снуў-шы як мёрт-вы У-ла-да-ру і Го-спа-дзе,




на трэ-ці дзень Ты ўваскрос і А- да - ма ад тлення ўзьняў




пе-ра - мог - шы сьмерць: Пас- ха ня- тленна- я, сьвету збаўленьне.

Ant. 2.



HÆC dí- es, * quam fé- cit Dó- mi- nus :



exsulté- mus, et læ- té- mur * in é- a.



# Збаўца наш Ісус уваскрос

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнзвіл Па. Уэльская мелёдыя: "Хлянвэйр".
ЗША 1979



Збаўца наш Ісус ускрос: Алілуя !
Мір і радасьць нам прынёс: Алілуя !
Ён у славе і красе – Алілуя !
На зямлі сьпявайце ўсе – Алілуя !

Божую з'явіў любоў – Алілуя !
У найбольшым із баёў – Алілуя !
Сьмерці ўладу Ён скрышыў – Алілуя !
Рай нябесны нам адкрыў – Алілуя !

Нас Хрыстос наўчае жыць – Алілуя !
Сьмерць Хрыстовых не страшыць – Алілуя !
Сьмерцю сьмерць Ён патапаў – Алілуя !
Моц у пекле адабраў – Алілуя !

Шлях адкрыўся нам прамы – Алілуя !
Дзе Хрыстос, там будзем мы – Алілуя !
Хто з Хрыстом тут на зямлі – Алілуя !
Будзе з Ім на вышыні – Алілуя !

# Хрыста прыйшоўшага

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крайнзвіль Па.
ЗША 1979

Мялёдыя традыцыйная
опрац. Г.А.К і Г.П.



Хрыста, прыйшоўшага з нябёс,
Хвалеце ўсе вясёлым спевам,
І цешцеся найбольшым дзівам: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2x

Які шчаслівы маем лёс:
Зыходзе неба проста ў грудзі,
І радасна спяваюць людзі: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2x

У свеце гора, мук і слёз
Нясецца Госпаду хваленне,
Спявае ўсякае стварэнне: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2x

Табе, Прычына ўсіх прычын,
Цярпеўшаму за нас зняваґу,
Прыносім славу і падзяку: )
На векі вечных. Амін! ) 2x

# Княгіня нябесная

Тэкст : "Ружанец" – Вільня 1928

Грэгарыянскі напеў
гарм. Г. Піхурэ

Кня-гі-ня ня- бес- на- я, ве- ся-лі- ся : А- лі- лу- я! Бо той,

ка-то- ра- га за-слу-жы- ла на- сіць, А-лі- лу- я, у- жо ўскрос

як Ён прадска-заў, А-лі-лу- я; Ма-ліся за нас да Бо-га: А-лі-лу-я!

**Regina cœli.** **XVII**

R Egína cœ-li ✠ lætáre, alle-lú-ia : Qui-a quem meru- ísti portáre,

alle-lú- ia : Resurréxit, sicut dixit, alle- lú-ia : Ora pro nóbis Dé-um,

alle-lú- ia.

℣. Gáude et lætáre, Virgo María, allelúia.
℟. Quia surréxit Dóminus vere, allelúia.

# І нам даравау̌

Тэкст : Вялікодны воклік

Мел. з Жыровіцкага Ірмалоя(1649)

І нам да-ра- ваў жыць- цё

веч - на- е пе - кла-ня - ем-

ся Я - го-на- му трох дзён-на -

му ўваскра.- сень - - ню.

# Хрыста Ісуса

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнзвіль Па.
ЗША 1979

Музыка традыцыйная



Хрыста Ісуса з крыжа знялі
Не ўсё гатовыя сябры.
У новым гробе пахавалі
Каля Галгофскае гары.

Няма спакою азвярэлым,
Іх страх бярэ: "Устане зноў".
Кладуць пячаць на гробе дзверы,
Стаўляюць пеўных старажоў.

Мінае ноч – Жанчыны з плачам
Ідуць Нябожчыка глядзець,
А там усё Бог перайначыў:
Не будзе цемра сілы мець.

Вялікі камень адваліўся,
Не шых распалася пячаць,
Хрыстос уокрос, з пячары выйшаў,
Адны палотны там ляжаць.

Глядзяць з трывогаю жанчыны,
А вочы іх блішчаць ад слёз,
І чуюць вестку новых чыжаў:
"Ён тут ляжаў, але ўваскрос!"

Іх сэрцы радасць ажывіла,
Бягуць хутчэй сказаць сваім:
"Устаў Збавіцель наш з магілы,
Памёрлы быў, стаў зноў жывым!"

# Хрыстос Уваскрос

## № 1.

Мялёдыя з бел. Багагласніка
з нот а. Б. Дарашкевіча

Тэкст : Народны



Хрыстос ўваскрос з памёршых !
Сьмерць сьмерцю зваяваў,
Перваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам дававаў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім верным з нябёс радасьць
І супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устаў у паўночы у славе,
І ў благаславёны час.

А ангел праменісты
На камені сядзеў,
І голасам нябесным
"Хрыстос ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
І мірра дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо ўваскрос !"

"Хрыстос ўваскрос з памёршых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў,
"Перваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам дававаў !"

# Хрыстос Уваскрос

## № 2.

Мялёдыя з бел. Багагласніка
з нот а. Прат. Я. Абабуркы

Тэкст : Народны



Хрыстос ўваскрос з памёрпых !
Сьмерць сьмерцю зваяваў,
Парваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам дараваў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім верным з нябёс радасьць
I супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устаў у паўночы у славе,
I ў блаславёны час.

А анёл праменісты
На камены сядзеў,
I голасам нябесным
"Хрыстос ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
I міррэ дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо ўваскрос !"

"Хрыстос ўваскрос з памёрпых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў.
"Парваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам дараваў !"

# Хрыстос Уваскрос

## № 3.

Мялёдыя з бел. Багагласніка
з нот а. В. Дарашкевіча

Тэкст : Народны



Хрыстос ўваскрос з памёршых !
Сьмерць сьмерцю зваяваў,
Парваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам даравaў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім верным з нябёс радасьць
І супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устоў у паўночы у славе,
І ў блаславёны час.

А енгел праменісты
На камены сядзеў,
І галасам нябесным
"Хрыстос ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
І мірра дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо ўваскрос !"

"Хрыстос ўваскрос з памёршых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў,
"Парваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам даравaў !"

# О, мой Божа, веру Табе

Мялёдыя традыцыйная
гарм. М. Кулікові́ч-Шчаглоў.

Тэкст(1829): "Кантычка" - Вільня 1914




О мой Божа! веру Табе -
I ўсё веру я для Цябе,
Усю надзею ў Табе маю,
За ўсё Цябе выхваляю.

Ты сатварыў, Ты адкупіў,
Ты нас, Божа, і асьвяціў;
За то Табе гдзе ёсьць людзі
Чэсьць і слава няхай будзе.

Табе, Божа, кланяюся,
На Тваю волю здаюся,
А быць толькі хачу ў небе
Па ўсе векі славіць Цябе.

Жаль мне, Божа, зграшыў Табе,
Праз грэх дастаў пекла сабе;
Ды ня так жаль згубы маей,
Як жал, Божа, крыўды Тваей!

Для Твайго спадабаньня
Хачу споўняць прыказаньня;
Жыць і ўміраць хачу ў Табе,
Бо Ты добры сам у Сабе.

О Марыя, Матка Боска,
Ты сьвятая кветка райска,
Маліся Богу за намі,
Нягоднымі грэшнікамі.

Ўсе Сьвятыя ўзглянце з неба!
Вашей ласкі нам патрэба;
Малецеся вы за намі,
Нагоднымі грэшнікамі.

Хвала Богу праўдзіваму,
Хвала ў Тройцы Адзінаму,
Хвала Айцу, разам Сыну,
Хвала і Духу Сьвятому.

# О Божа Спасе наш

## № 1.

Тэкст: "Беларускі Песеннік" - Вільня 1918 Музыка: Л. Рагоўскі
Словы К. Каганца



О Божа, Спасе наш,
Ты міласьць нам пакаж,
З нядолі вызваль нас,
Збудзі Ты нас ўжо раз.

Ты вочы нам адкрый
І сьвету нам пашлі -
Ты праўду нам пакаж,
О Божа, Спасе наш!

# О Божа Спасе наш

№ 2.

Тэкст: "Беларускі Песеннік" - Вільня 1918
Словы К. Каганца

Старая брэтоньская мялёдыя
гарм: Бэн'е





О Божа, Спасе наш,
Ты міласьць нам пакаж,
З нядолі вызваль нас, (2х)
Збудзі Ты нас ўжо раз.

Ты вочы нам адкрый
І сьвету нам пашлі -
Ты праўду нам пакаж,
О Божа, Спасе наш!

# На твар упаўшы

Тэкст: "Голас душы"- Вільня 1926
тлум. а. Я. Гэрмановіч.

Мялёдыя: А. Страздэліс
гарм. К. Галкоўскі.



На твар упаўшы, з месца сьвятога
Чэсьць і малітву шлем мы да Бога,
З пакорай ў сэрцы, душой удзячнай
Пред Хрыстовай ахвяры страшнай.

Цябе мы просім, дарагі Божа,
Хай Твая ласка нам дапаможа;
Дай спакой дома, а дар у полі -
Няхай зямелька родзіць даволі.

Дай нам здароўе, міласьць і згоду,
А душы ў чысцы дары свабодай.
Хай Твая ласка плыве нам дарам
Праз найсьвяцейшу Крыжа ахвяру.

Глянь, Цябе просіць народ Твой верны,
Мілы наш Ісус, будзь міласэрны.
Усіх нас, Божа, ратуй ад зьдзеку,
Вазьмі няшчасных ў сваю апеку.

Шлём да Цябе мы просьбы, жаданьня
Даруй ў патрэбе нам зьмілаваньне.
Дай, каб на сьвеце Табе служылі,
А посьле ў небе вечна хвалілі.

# Пад Твае прыходзім дзьверы

Мялёдыя традыцыйная
апрац. К. Галкоўскі

Тэкст: "Вучыся і маліся" – Вільня 1944.




Пад Твае прыходзім дзьверы
Шчырым сэрцам, поўны веры:
Што пад відам скрыты хлеба
Ты ёсьць Бог праўдзівы з неба.

Несьмяротны, моцны Божа,
Зразумець Цябе хто можа ?
Ты для грэшных справядлівы
I для добрых міласьцівы.

Міласьць Бога заяўнова,
Як зьмяніў хлеб ў сваё Цела –
Нам аставіў пажываці,
Каб праз гэта нас збаўляці.

Хоць анёлы ў небе блізка,
Прад Табою паўшы нізка,
Усьцяж на твар Твой спаглядаюць,
Чым ёсьць Бог, аднак не знаюць.

Я таго нягодзен, Пане,
Каб ва мне меў прабываньне –
Скажы толькі адно слова
I душу мне збавіш знова.

# √Госпад нам - шчыт

Тэкст: "Гімны Хрысьціян"-Крэйнзвіл Па.
ЗША I979

Музыка з бел. Багагласніка XIXст.



Госпад нам – шчыт, надзея наша,
Прытулак поўны і скала,
Ён разважае, пацяшае
I выбаўляе нас ад зла.

Наш вораг хітры, старадаўні,
Трывожыць сэрцы нам не раз;
Як леў галодны, велізарны,
Хутчэй пажэрці хоча нас.

Шаленства поўны ён і злосці,
Страх узнімае нас прад ім,
Але яго здолеў калісьці
Магутны Волат з вышыні.

Хто ж той магутны Пераможца?
То Адкупіцель наш Хрыстос.
Ён свеціць нам ярчэй ад сонца,
Нас выбаўляе ад пагроз.

У гэтым свеце мы не самі,
А ўсюды з Госпадам жывым
Перамагаем спёку, замець,
Нягоды на шляху зямным.

Княз цемры люты, гневу поўны,
Што нас не здолеў загубіць,
Але ён скора пойдзе ў прорву,
Век вечна будзе там гарэць.

Калі ж нас людзі абняславяць,
Пачнуць праследаваць і гнаць,
Нас не пакіне Бог ласкавы,
Паможа ўсё перастрываць.

А возьмуць злыя ў час ганення
Маемасць, волю і дзяцей, –
Хрыстос пашле нам пацяшэнне
I крыж нам зробіцца лягчэй.

# Хрыстос Уваскрос

## № 1.

Тэкст : Трапар тон 5

Супрасьльскі напеў (1598)
гарм. Г. Піхура



Хрыстос увас- крос з мёрт- вых сьмер- цю сьмерць зва-



я - ваў, і тым, што ў ма - гі- лах жыць- цё да - ра- ваў!

## № 2.

Трапар : Тон 5

Жыровіцкі напеў (1649)
гарм. Г. Піхура



Хры-стос у- васкрос з мёрт-вых, сьмер- цю сьмерць зва- я- ваў,



і тым што ў ма - гі - лах жыць-цё да - ра - ваў!

**№ 3.** Гародзенскі напеў







**№ 4.** Падляскі напеў (19 ст.)







**№ 5.** Абыходны напеў






# Целам заснуўшы

Тэкст : Экзапастыляр

Віленскі напеў (варыянт)
апрац. Г. Пікура



Це – лам за–снуў– шы як мерт–вы У–ла–да–ру і Го–спа–дзе,



на трэ–ці дзень Ты ўваскрос і А– да – ма ад тленьня ўзьняў



пе–ра – мог – шы сьмерць: Пас– ха ня– тленна– я, сьвету збаўленьне.

Ant. 2.



Hæc di- es, * quam fé-cit Dó- mi- nus :



exsulté- mus, et læ-té- mur * in é- a.



# Радуймася, хрысьціяне

Тэкст : "Голас душы" - Вільня 1926

Мялёдыя транскрыбаваў
з нот А. Клімовіча



Радуймася, хрысьціяне,
Бо Хрыстова з гробу ўстаньне
Даравала нам збаўленьне.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Патрыярхі рады сталі,
Што ў ойчынных прабывалі,
Як Збаўцу свайго дачкалі.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

І убачылі ясельга,
Ён адняў моц духа злога,
Ім сказаў ісьці да Бога.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

З гробу камень адваліўся,
Хрыстос з умёршых збудзіўся
І Марыям аб'явіўся.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Апосталы сабраліся,
Што былі ўсе расшчыліся,
Па Хрысьце ўсе смуцячыся.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Мы ўсе разам засьпявайма,
Ускрашэньне разважайма,
З граху ўстань пастанаўляйма.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

Хрысьце, праз Тваё ўскрасеньне
Дай нам грахоў адпушчэньне,
Вечнае душам збаўленьне.
Хрыстос ўваскрос (2х), Алілуя!

# Вялік сьвяты

## № 1.

Мяд. з Віленскага Богагласьніка (1912)
апрац. Г. Піхура.

Тэкст : "Божым Шляхам" – Рым 1946





Вялік, сьвяты нам дзень настаў,
Са славай з гробу зазіяў;
Хрыстос ўваскрос – нам вечны сьвет,
Хрыстос ўваскрос !

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
На трэці дзень із мертвых ўстаў.
Ах радасьці ня трэба сьлёз –
Хрыстос ўваскрос !

Суботая поўнач як зайшла,
Зара нядзелі чуць ўзыйшла,
Як адчыніўся насьцеж гроб –
Хрыстос ўваскрос !

Жанчыны раньня к гробу йшлі,
І міро цэннае нясьлі,
Ах бачаць гроб – там нехта ёсьць –
Хрыстос ўваскрсс !

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх:
То сьветлы анёл быў з нябёс.
Хрыстос ўваскрос !

Жанчынам анёл той сказаў:
"Хрыстос ўваскрос, із мертвых ўстаў,
"Дарма шукаеце тут скрозь –
"Хрыстос ўваскрос !"

"Ідзеце дайце знаць аб том
"Усім Яго вучанікам
"Радасную ангельскую весьць –
Хрыстос ўвасрос !"

У царквах сьпявайце і ў дамах
Жыцьцё нам есьць на нябёсах:
Усе весялецесь людзі скрозь –
Хрыстос ўваскрос !

# Вялік сьвяты

## № 2.

Тэкст : "Божым Шляхам" – Рым 1946 Музыка : Дж. Палестрыны (16 ст.)



Вялік, сьвяты нам дзень настаў,
Со славай з гробу засіяў;
Хрыстос ўваскрос – нам вечны сьвет,
Алілуя !

Як сам прад сьмерцю Ён сказаў,
На трэці дзень із мертвых ўстаў.
Ад радасьці ня трэба сьлёз –
Алілуя !

Суботня поўнач як зайшла,
Зара нядзелі чуць ўзыйшла,
Як адчыніўся насьцеж гроб –
Алілуя !

Жанчыны зраньня к гробу йшлі,
І міра цэннае нясьлі,
Аж бачаць гроб – там нехта ёсьць –
Алілуя !

Ясны як сонца меў Ён від,
пасланьнік Божы быў да іх:
То сьветлы анёл быў з нябёс.
Алілуя !

Жанчынам анёл той сказаў:
"Хрыстос ўваскрос, із мертвых ўстаў,
"Дарма шукаеце тут скрозь –
Алілуя !

"Ідзеце дайце знаць аб том
"Усім Яго вучнікам
"Радасну ангельскую весьць –
Алілуя !

У царквох сьпявайце і ў дамох
Жыцьцё нам ёсьць на небясох:
Усе вяселецесь людзі скрозь –
Алілуя !

# Вясёлы дзень

Тэкст : "Голас душы" – Вільня 1926
(Варыянт)

Музыка традыцыйная
з Віленскага Багагласніка (1912)



Вясёлы дзень для нас настаў –
Сягоньня Хрыстос з гробу ўстаў!
Хрыстос ўвасрос (3х)

Уладар Нябесны к нам прыбыў,
Па сьмерці з намі зноў зажыў!
Алілуя! (3х)

Пякельну нетру зраяваў,
Усенькіх злыдняў паканаў
Хрыстос уваскрос! (3х)

Да трох дзён у пекле правёў,
Там пацяшаў сьвятых Айцоў.
Алілуя! (3х)

На трэці дзень Сам з гробу ўстаў
Пячацяў на'т не пачапаў –
Хрыстос ўваскрос! (3х)

А як Хрыстос з магілы ўстаў,
Да Маткі анелаў паслаў.
Алілуя! (3х)

Вітайце Дзеву ад Мяне,
І засьпявайце для Яе:
Хрыстос ўваскрос! (3х)

"Матуля родная Мая,
"Жалоба скончыцесь Твая –
"Алілуя! (3х)"

"Вітай-жа, Ісусе жывы,
"Сынок мой любы, залаты:
"Хрыстос ўваскрос!"

О Хрысце, што ўстаў у тры дні,
Грахі нам нашы адпусьці –
Алілуя! (3х)

# Хрыста Ісуса

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнэвіль Па.
ЗША 1979

Музыка традыцыйная



Хрыста Ісуса з крыжа знялі
На ўсё гатовыя сябры.
У новым гробе пахавалі
Каля Галгофскае гары.

Няма спакою азвярэдым,
Іх страх бярэ: "Устане зноў".
Кладуць пячаць на гробе дзверы,
Стаўляюць пеўных старажоў.

Мінае ноч – Жанчыны з плачам
Ідуць Нябожчыка глядзець,
А там усё Бог перайначыў:
Не будзе цемра сілы мець.

Вялікі камень адваліўся,
На пыл распалася пячаць,
Хрыстос ускрос, з пячэры выйшаў,
Адны палотны там ляжаць.

Глядзяць з трывогаю жанчыны,
А вочы іх блішчаць ад слёз,
І чуюць вестку новых чынаў:
"Ён тут ляжаў, але ўваскрос!"

Іх сэрцы радасць ажывіла,
Бягуць хутчэй сказаць сваім:
"Устаў Збавіцель наш з магілы,
Памёрлы быў, стаў зноў жывым!"

# Хрыстос Уваскрос

## № 1.

Тэкст : Народны

Мэлёдыя з бел. Багагласніка
з нот а. В. Дарашкевіча



Хрыстос ўваскрос з памёршых !
Сьмерць сьмерцю зваяваў,
Параваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам дараваў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім верным з нябёс радасьць
І супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устаў у паўночы у славе,
І ў блаславёны час.

А ангел праменісты
На камены сядзеў,
І галасам нябесным
"Хрыстос ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
І мірра дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо ўваскрос !"

"Хрыстос ўваскрос з памёршых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў,
"Параваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам дараваў !"

# Хрыстос Уваскрос

## № 2.

Мялёдыя з бел. Багагласніка
з нот в. Прат. Я. Абабуркі

Тэкст : Народны



Хрыстос ўваскрос з памёршых !
Сьмерць сьмерцю звяяваў,
Парваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам дараваў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім вернам з нябёс радасьць
І супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устаў у паўночы у славе,
І ў блаславёны час.

А англ праменісты
На камены сядзеў,
І голасам нябесным
"Хрыстос ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
І мірра дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо ўваскрос !"

"Хрыстос ўваскрос з памёршых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў,
"Парваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам дараваў !"

# Хрыстос Уваскрос

## № 3.

Мялёдыя з бел. Багагласніка
з нот а. В. Дарашкевіча

Тэкст : Народны



Хрыстос Ўваскрос з памёршых !
Сьмерць сьмерцю зваяваў,
Парваўшы путы пекла,
Жыцьцё нам даравў.

У паўночы з магілы
Збавіцель наш ўваскрос;
Усім верным з нябёс радасьць
І супакой прынёс.

Зямля ўжо затраслася,
Калі Збавіцель наш
Устаў у паўночы у славе,
І ў блаславёны час,

А ангел прамяністы
На камены сядзеў,
І голасам нябесным
"Хрыстос Ўваскрос!" ён пеў.

А сьвятыя жанчыны
На магіле прышлі,
І мірра дарагое
З сабою прынясьлі.

Прышлі памазаць цела
Уладара свайго:
Но бачылі ў магіле
Што там няма Яго.

Ангелы ім сказалі:
"Больш вам ня трэба сьлёз -
"Хрыстос, Збавіцель сьвету,
"З магілы ўжо Ўваскрос !"

"Хрыстос Ўваскрос з памёршых
"Сьмерць сьмерцю зваяваў,
"Парваўшы путы пекла,
"Жыцьцё нам даравў !"

# Збаўца наш Ісус уваскрос

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнзвіл Па. ЗША 1979

Уэльская мялёдыя: "Хлянвэйр".



Збаўца наш Ісус ускрос: Алілуя !
Мір і радасьць нам прынёс: Алілуя !
Ён у славе і красе – Алілуя !
На зямлі сьпявайце ўсе – Алілуя !

Божую з'явіў любоў – Алілуя !
У найбольшым із баёў – Алілуя !
Сьмерці ўладу Ён скрышыў – Алілуя !
Рай нябесны нам адкрыў – Алілуя !

Нас Хрыстос навучае жыць – Алілуя !
Сьмерць Хрыстовых не страшыць – Алілуя !
Сьмерцю сьмерць Ён патапаў – Алілуя !
Моц у пекле адабраў – Алілуя !

Шлях адкрыўся нам прамы – Алілуя !
Дзе Хрыстос, там будзем мы – Алілуя !
Хто з Хрыстом тут на зямлі – Алілуя !
Будзе з Ім на вышыні – Алілуя !

# Хрыста прыйшоўшага

Тэкст : "Гімны Хрысціян" – Крэйнзвіль Па.
ЗША 1979

Мялёдыя традыцыйная
апрац. Г.А.К і Г.П.



Хрысте, прыйшоўшага з нябёс,
Хвалеце ўсе вясёлым спевам,
І цешцеся найбольшым дзівам: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2х

Які шчаслівы маем лёс:
Зыходзе неба проста ў грудзі,
І радасна спяваюць людзі: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2х

У свеце гора, мук і слёз
Нясецца Госпаду хваленне,
Спявае ўсякае стварэнне: )
Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос! ) 2х

Табе, Прычыне ўсіх прычын,
Цярпеўшаму за нас знявагу,
Прыносім славу і падзяку: )
На векі вечныя. Амін! ) 2х

# Княгіня нябесная

Грэгарыянскі напеў
гарм. Г. Піхура

Тэкст : "Ружанец" - Вільня 1928

Кня-гі-ня ня- бес- на- я, ве- ся-лі- ся : А- лі- лу- я! Бо той,

ка-то- ра- га за-слу-жы- ла на- сіць, А-лі- лу- я, у- жо ўскрос

як Ён прадска-заў, А-лі-лу- я; Ма-ліся за нас да Бо-га: А-лі-лу-я!

**Regina cœli.** XVII

R Egína cœli * lætáre, alle-lú-ia : Qui-a quem meru- ísti portáre, alle-lú-ia : Resurréxit, sicut dixit, alle-lú-ia : Ora pro nóbis Dé-um, alle-lú- ia.

℣. Gáude et lætáre, Virgo María, allelúia.
℟. Quia surréxit Dóminus vere, allelúia.

# І нам даравaў

Тэкст : Вялікодны воклік — мял. з Жыровіцкага Ірмалоя (1649)

І нам да-ра-ваў жыць-цё

веч-на-е па-кла-ня-ем-

ся Я-го-на-му трох дзён-на-

му ўвас-кра.- сень - - ню.

# Дай, добры Божа

Тэкст: "Божым шляхам" - Лёндан 1967
Словы: а. Я. Гэрмановіча

Музыка апрац. Г. Піхура



Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць,
Тваею ласкай захавай ад граху,
К Табе ўздыхае маё сэрца, плачыць -
Дай ў Тваей сіле мне знайсьці пацеху!

Ты сьвет уладзіў не людзкую службу -
Такі карысны і такі прыгожы,
Каб мы, ўвайшоўшы з гэтым сьветам ў дружбу,
Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа!

Табе малюся, Божа міласьцівы,
Дай мне убачыць сьвет Твой найясьнейшы -
Цябе самога і ўсе ў небе дзівы -
На векі вечны, Божа наймілейшы!

Тваею моцай і я моцны стану -
Айца і Сына, і Духа Сьвятога -
Тройцу адзіну, калі ў небе гляну,
Хваліці буду Стварыцеля Бога.

Будзь слава Богу, ў Тройцы ўсемагутнай
І жыватворчай, вечнай на заўсёды,
І неразьдзельнай і адзінасутнай,
У Божай моцы, знак любовы згоды.

# Мы Хрыстовага войска

Тэкст: "Гімны Хрысьціян"-Крэйнзвіл Па.
ЗША 1979

Музыка апрац. Г. Піхура



Мы Хрыстовага войска салдаты.
Нам цярпець і змагацца прыйшлось
Ад людзей не чакаем заплаты,
Бо за ўсё ўзнагародзіць Хрыстос.

Для змагання Ён мудра узброіў,
Даў нам веру, каб зрушыць гару,
Каб сьвяціць людзям праўдай сьвятою,
Заклікаць да служэння дабру.

Сонца Праўды заўсёды нам сьвеціць,
Саграває душу нам і кроў,
Памагае ад шчырага сэрца
Абвяшчаць усім Божу любоў.

Не шукаем пахвал ні пашаны,
Нам прыкмета сьвятых прастата;
Наша мэта – і словам і чынам
Узвялічыць Ісуса Хрыста.

Мы Хрыстовага войска салдаты,
З цемрай сьвету ідзём ваяваць;
Каб Хрыстос быў народам прыняты,
І жыццё мы гатовы аддаць.

# Вітай Марыя

**№ 1.**

Тэкст: "Бог з намі" – Вільня 1915

Мялёдыя традыцыйная
апрац. М. Куліковіч-Шчаглоў



Вітай Марыя, Хрыстова Маці,
Пазволь нам грэшным Табе чэсьць даці,
Прымі і нашы просьбы нізкія,
За нас маліся – Вітай Марыя!

Ты, што карміла сьвету Збаўленьне,
І нам, як Маці, дай пажыўленьне;
Ад голаду нас няхай укрые
Твая апека – Вітай Марыя!

Цяжкі жаль мела над сьмерцяй Сына
Праз Твае сьлёзы, Маці адзіна,
Хай нам хвіліны сьмерці цяжкія
Спакойны будуць – Вітай Марыя!

Поўная пакоры, згодная, ціхая,
Дай людзям згоду ў нашым краі;
Між нас хай згінуць сваркі ліхія,
Крый нас ад войнаў – Вітай Марыя!

Уладарка наша, між херубімаў,
Пачуй маленьне, неба Княгіня,
што йдзе прад ногі Твае сьвятыя,
За нас маліся – Вітай Марыя!

# Вітай Марыя

## № 2.

Тэкст: "Бог з намі" – Вільня 1915

Мялёдыя традыцыйная (варыянт)
апрац. Г. Піхура

Вітай Марыя, Хрыстова Маці,
Пазволь нам грэшным Табе чэсьць даць,
Прымі і нашы просьбы нізкія,
За нас маліся – Вітай Марыя!

Ты, што карміла сьвету Збаўленьне,
І нам, як Маці, дай пажыўленьне,
Ад голаду нас няхай укрые
Твая апека – Вітай Марыя!

# О Марыя, Маці Бога

Тэкст і музыка: "Касьцёльныя песьні" - СПбг. 1917

Традыцыйная мялёдыя
апрац. В. Гажэльнярскі



О Марыя, Маці Бога,
Ты не гардзіш анікога;
Хто ў нядолі, ці ў патрэбе
Зьвернецца прад трон Твой ў небе,
О Марыя, маці Сына,
Ты надзея наша адзіна.

Сьцеражы ад злых прыгодаў,
Ад душы і цела шкодаў,
Голад, мор, вайну, пажары,
Адвярні ўсе Божы кары;
О Марыя...

Дык і я, грэшнік нягодны
Як сын да матулі роднай,
Да Цябе, Маці ласкава,
Шлю пакорнай просьбы слова;
О Марыя...

А па сьмерці няхай Бога,
У Сьвятой Тройцы адзінога,
І Цябе, Нябесная Пані,
Славім ў небе з Анеламі.
О Марыя...

# Матачка Божая

Тэкст: "Голас душы" – Вільня 1926

Мялёдыя: кс. Архім. Ф. Абрантовіч
апрац. М. Куліковіч-Шчаглоў



Матачка Божая, Матачка Добрая,
Бедныя дзеці мы клічам Цябе;
Песьняй пакорнай мольбы складаючы,
Серцы свае аддаём мы Табе.

Нас, сваіх дзетачак, што ў Цябе просяцца –
Матачка Добрая, Ты пашкадуй;
Ласкай адзыўчаю Бога прадвечнага,
Матачка Божая нас абдаруй.

Вылеч Ты серца нам раны глыбокія,
Міласьцяй чыстаю нас запалі,
Каб хвала Божая, не жальба вечная,
У неба ляцела, ляцела з зямлі.

Сьветам нябесным-жа галовы цёмныя,
Матачка Божая, Ты асьвяці,
Каб мы пазналі ўсе Мудрасьць Адвечную,
Богу служылі тут верна ў жыцьці.

Дай-жа нам, дзетачкам, дарогу простую,
Сьмерці хвіліну шчасьлівую дай.
Вядзі нас, Матачка, зоранька ясная,
У хвалу вечну, у цудны рай.

# Дазволь Маці

Тэкст: "Голас душы" - Рым 1949
з Вострай Брамы ў Вільні.

Музыка традыцыйная
апрац. А. Клімовіч



Дазволь, Маці, прывітаці
Песьняй прыгожа;
Хоць даволі, аніколі
Хваліць ня можа:
Ані грэшны чалавек,
Ні анёлы цэлы век,
Ні сьвятыя, часьць Марыі
Годныя аддаць.

Я нягодны, песьняй роднай
Цябе вітаю
І з бяздоньня шлю сягоньня
Мольбы да раю.
Ты мяне не забывай,
Памачы і ласку дай.
Там на небе у патрэбе
Абаронай будзь.

О цудоўная, ласкі поўная,
Чыстая лілея,
Міласьцівая, літасьцівая,
Грэшных надзея.
Вечна ў небе анёлы
Цябе хваляць вясёлы.
Я жадаю хваліц ў раю,
Зь імі навекі.

Найясьнейшая, найсьвяцейшая,
Сьвету, неба цуд,
Ты зрадзіла і карміла
Бога-Сына тут.
Ты, як зорка прыгожа,
На твар глянуць хто-ж можа,
Дзе на троне у кароне
Хвалай ясьнееш.

Грахам скуту я пакутай
Душу абмыю -
І збалелым сэрцам цэлым
Прашу Марыю:
Што па сьмерці у раю
Відзець Яе жадаю.
Прашу гожа, дай мне Божа,
На вякі вечны.

# Вострабрамска Маці Бога

Музыка традыцыйная
апрац. В. Гожэльнярскі

Тэкст: "Касьцельныя песьні" – СПбг. 1917





Вострабрамска(я) Маці Божа,
Ты прачыстая, прыгожа.
Міласэрдзе Твеей волі
Сьвеціць Вільні у нядолі.

У краі нашым Ты у чэсьці,
Нясеш з неба добры весьці!
Шчасьце для нашага краю
Даеш нам ад Бога з раю!

Уся Цябе Русь славіць Бела
І Літва і Польшча цэла, –
Бо Ты Маці міласьціва,
Сваім дзеткам дабратліва. –

Іх у смутку пацяшаеш,
Слабых, хворых пацрэўляеш
І хто толькі к Табе прыйдзе
То бяз радасьці ня выйдзе.

Ты так кожнаму дагодзіш,
Што надзею ў сэрцы зродзіш;
Праз Цябе усе правіны,
Даруюцца ў Бога Сына!